Opłata pocztowa op[…] Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 4—(44). […] Год II.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $1/2$ — 65, за $1/4$—35, за $1/8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Камунікат Выканаучага Камітэту Беларускай Радыкальн. Народн. Партыі.

**Маючы даверые да асобы Маршалка Пілсудскага, як кіраўніка дзяржавы, лічачы, што яго асоба, як шэфа Ураду гварантуе аздараўленьне нацыянальных адносін у нашым краі і спаўненьне справядлівых дамаганьняў беларускага народу і лічачы, што узмацненьне незалежнасьці Польшчы дасьць у будучыне падставы адраджэньня незалежнасьці Беларусі, Беларуская Радыкальная Народная Партыя пастанавіла дэмонстрацыйна разам з Краёвым Народным Саюзам далучыцца да Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам.**

## Наша слова.

Вышэй мы зьмяшчаем Камунікат Выканаўчага Камітэту Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі аб тым, што яна разам з Краёвым Народным Саюзам „Аб'яднаньнем", — як неразьдзельная яго частка, далучаецца на час выбараў у Сойм да Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з урадам Маршалка Пілсудскага.

Гэтая пастанова, прынятая аднагалосна на паседжаньні Выканаўчага Камітэту Б. Р. Н. П. і дэмонстрацыйна падтрыманая дэлегатамі Б. Р. Н. П. на паседжаньні Рады Краёвага Народнага Саюзу Літоўска-Беларускіх Земляў, зьяўляецца першым экзаменам маладое арганізацыі беларускіх радыкалаў на палітычную сьпеласьць, першым паважным палітычным крокам, першым актам дзейнасьці.

Беларускі народ мусіць ведаць, чаму мы гэта зрабілі. Наступныя пакаленьні будуць судзіць нас па гэтаму першаму кроку.

І вось у адказ і нашым сучасьнікам і нашым насьледнікам мы кажам: мы павінны былі выбіраць адно з двух: **альбо ідэю Незалежнасьці, яе прадстаўніка і Насіцеля, — альбо стаць адкрытым, ці яшчэ горай, скрытым ворагам Маршалка Пілсудскага.**

Мы выбралі першае. Выбралі не таму, што лічым сучасны стан нацыянальных адносінаў у Польшчы нармальным. Выбралі не таму, што палажэньне нашага сялянства і інтэлігэнцыі лічым задавальняючым. Мы можам згадзіцца з нашымі крытыкамі ў тым, што сягоньня ў нас яшчэ ня зусім добра, а ў некаторых галінах — асабліва-ж у галіне эканамічнай і чыста культурнай вельмі дрэнна. Але дзе выхад? Ці-ж можна ўсю віну за тое, што ёсьць, ці можна ўсю віну за спадчыну няволі і эндэцкага панаваньня ўзваліць на ўрад Маршалка Пілсудскага, які ўсім сваім жыцьцём і працаю зьяўляецца антытэзаю эндэцыі, зьяўляецца сярод дзяржаўных мужоў Усходняе Эўропы можа найбольш выбітным прадстаўніком ідэі Незалежнасьці Народаў.

Будучы глыбока перакананымі ў тым, што Адраджэньне Беларусі ня можа адбіцца на аслабленьні незалежнае Польшчы, больш таго, будучы перакананымі, што толькі ўзмацненьне незалежнасьці Польшчы дасьць падставы для нашага руху — мы, беларусы, адкідаючы тымчасовае, адкідаючы ў бок тыя нацыянальныя непаразуменьні, якія яшчэ існуюць у нас у краі, не зьвяртаючы ўвагі на ўсе недастаткі польскіх дзяржаўных установ — не зьвяртаючы ўвагі на несправядлівасьці, якія прыходзіцца перажываць беларусам ад тых ці іншых бюракратаў і нясумленных чыноўнікаў — усё-ж такі лічым патрэбным падкрэсьліць нашу галоўную тэзу — бяз моцнае палітычна, эканамічна і культурна Польшчы — няма і мовы аб Беларусі, няма надзеі на адраджэньне нашае дзяржаўнасьці. І ў імя гэтае высшае ідэі — ідэі Незалежнасьці Народаў, рэпрэзэнтантам якое зьяўляецца Маршалак Пілсудскі, тварэц Незалежнае Польшчы, — мы аддаём свой голас за той блёк, які галоўнаю сваёю задачаю ставіць: памагчы ўраду Маршалка Пілсудскага зьдзейсьніць яго ідэалы.

Той, хто сяганьня нас не зразумее і ня хоча зразумець — зразумеець нас потым, зразумеець заўтра, калі наша доктрына запануе, а ў сумленьні сваім, як перад сваім уласным беларускім народам, так і перад народам польскім, які павінен быць нашым саюзьнікам, мы зьяўляемся чыстымі.

## Пастанова Галоўнага Ураду Краёвага Народнага Саюзу аб устасункаваньні да выбарнай акцыі.

21 студня 1928 году быў склікаены на паседжаньне Галоўны Урад Краёвага Народнага Саюзу, дзеля абгаварэньня справы выбараў. Большасьцю галасоў была прынята рэзалюцыя наступнага зьместу: „Краёвы Народны Саюз прыступае да Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Марш. Пілсудскага і даручае Выканаўчаму Камітэту далажыць усялякіх стараньняў, каб на сьпісках кандыдатаў да Сойму і Сэнату Краёвы Народны Саюз быў адпаведна рэпрэзэнтаваны".

Процiў гэтай рэзалюцыі выступалі б. паслы Вэндзягольскі, Дуброўнік і Адамовіч. Б. п. Вэндзягольскі ўнёс прапазыцыю, каб Краёвы Народны Саюз ня браў удзелу ў выбарах, адначасна не дазволіў сваім сябром ставіць кандыдатуры на іншых сьпісках. Рэзалюцыя гэтая атрымала мала галасоў і адпала.

Характарна ад'значыць, што б. п. Дуброўнік, а таксама і Адамовіч у пагоні за мандатамі і ня бачачы магчымасьці іх атрымаць, увайшоўшы ў Беспартыйны Блёк Супрацоўніцтва з Урадам, прапанавалі пайсьці з польскай партыяй т. зв. „Stronnictwem Chłopskim". Ролю б. п. Дуброўніка, якую ён іграў у Краёвым Саюзе, інакш ня можна назваць, як праступнай.

Ён на паседжаньні прачытаў заяву „Stronnictwa Chłopskiego" аб выхадзе з „Аб'яднаньня".

Заяву сваю Дуброўнік падаў як „karny członek Stronnictwa Chłopskiego". З гэтага відаць, што Дуброўнік, будучы ў Краёвым Саюзе, быў адначасна агентам „Stronnictwa Chłopskiego" і граў падвойную ролю.

Агалашэньне заявы Дуброўніка, падпісанай б. паслом Валеровам і загадзя прыгатаванай у Варшаве выклікала абурэньне ўсіх сяброў „Аб'яднаньня".

Паседжаньне закончылася вырашэньнем арганізацыйных справаў Краёвага Саюзу.

## „Новая сіла".

Вайна зьліквідавала расейскую работу ў Польшчы і ў нас, на беларускіх землях, якія аказаліся на захад ад Рыскае мяжы.

Болей сту гадоў русыфікаваліся беларускія землі вялікім апаратам Расейскае Монархіі. Ад першага разьдзелу Польшчы, калі адышоўшыя да Масквы землі былі аб'яўлены *„искони русским краем"* сыстэматычна праводзілася русыфікацыя беларускага насельніцтва і краю.

Разам з ліквідацыяй польскіх уплываў ішла ліквідацыйная работа ўсяго, што адрозьнівае беларускія землі ад цэнтральных губэрняў Расеі.

Успомнім толькі ліквідацыю Уніі ў 1839 г. і насланьне з цэнтральнай Расеі сьвяшчэньнікаў, якія занялі месца мясцовага уніяцкага духавенства, ня гледзячы на тое, што яно зьлілося з праваслаўнай царквою і адраклося ад уніяцкае царквы.

Успомнім тут забарону беларускага друку ў 1865 г., якая мела зьліквідаваць імя беларусаў і паддаць іх пад уплывы *„единой"* расейскай культуры і мовы.

Адыход расейскага чыноўніцтва і духавенства разам з адступіўшай расейскай арміяй у 1915 г. прарваў урэшце вяковы працэс русыфікацыі беларускага народу. Падзеі 1918 г. і 1921 г., здавалася, паставілі крыж над „акопамі расейшчыны" ў Заходняй Беларусі і з гэтага боку беларусам і іх культурнаму Адраджэньню пагроза перастала існаваць.

Ведама добра, што манюю аказалася дэкларацыя Кацярыны Вялікай аб расейскім характары беларускіх земляў. Ня гледзячы на вяковую русыфікатарскую працу, беларускія масы захавалі свае культурныя асаблівасьці і найвялікшы скарб і падставу культурнага разьвіцьця—мову.

Адраджэнская беларуская праца трапіла на падатны грунт і ўскалыхнула народныя масы, якія не падаліся русыфікацыі і вынарадаўленьню. Адтуль, з народных гушчаў вышлі вялікія народныя поэты пісьменьнікі, культурныя працаўнікі і палітычныя змагары за долю і волю Беларускага Народу.

Пасьля спыненьня вайны, вярнуліся ў Беларусь, дзе дагэтуль панавалі былыя абрусіцелі, царскія ўрадоўцы, вярнулася расейскае абшарніцтва і духавенства. Але, спаткаўшыся тут з новымі панамі палажэньня, якія перад вайною былі—„неблагонадёжным элементом" і праследа-

валіся царскімі ўрадоўцамі, б. царскія людзі баяліся выяўляць свае імкненьні аб *единой и недьлимой* вялікай Расеі.

Многія з іх баяліся нават прызнавацца да расейцаў, пісаліся украінцамі ці беларусамі. Аднак, за 7 год жыцьця ў Заходняй Беларусі ўсе гэтыя б. царскія людзі пазналі, што няма ніякага страху стацца ізноў расейцамі, выявіць свой запраўдны воблік, а нават павясьці старую перадваенную работу русыфікацыі беларускага насельніцтва. Тым больш, што польскія шовіністыя-эндэкі, якія да 1914 г. былі „верноподданными“ расейскага цара і выслугоўваліся на царскім двары і панадворках царскага рэжыму, заўсёды ім спрыялі і лятуцелі аб наладжаньні сужыцьця з тэю трэцяю Расеяй, якая мае прыйсьці і, хто ведае, будзе ізноў мець на чале цара.

З цікага багаслаўленьня эндэкаў, расейская інтэлігэнцыя аб'явіла на зьезьдзе ў Львове беларусаў і украінцаў галінамі аднаго „вялікага“ расейскага народу, якія культурна „не дарасьлі да маскоўскае мовы і гаворацька на „дыялектах“, і пачала працу сьпярша выбарную, а пасьля выбараў будзе вясьці чыста абрусіцельную, каб падняць „някультурных“ беларусаў і украінцаў да роўня „маскоўскае“ культуры.

Праца гэтая можа мець пэўны пасьпех дзеля асаблівага палажэньня беларускае справы ў Польшчы, дзе яна, дзякуючы грамадаўшчыне, мае няшчасьце вінавацінца ў нелегальнасьці ці нелёяльнасьці да польскае дзяржаўнасьці.

У сваёй прастадушнасьці беларускае сялянства, церпячы эканамічна ў вайну зьнішчэньне вайною свайго папярэдняга палажэньня, і ўспамінаючы аб лепшых умовах жыцьця перад вайною, з расейшчынаю лучыць паварот да тых лепшых часоў. Адгэтуль вынікае тое, што работа расейцаў можа спатыкацца з пэўнымі сымпатыямі. Пакуль што, сымпатыі, а калі паўстане тая трэцяя Расея, аб якой сьніць расейская эміграцыя ў нас, будзе падрыхтованы грунт да прыняцьця яе ў нас.

Гэтая „новая сіла“ нічога добрага не нясе нам, беларусам, апрача наступу на нашу культуру і самабытнае істнаваньне.

Проціў яе падымаем голас і перасьцерагаем беларускае грамадзянства. Хай расейцы ідуць працаваць да расейскіх народных масаў, якія стогнуць пад камуністычнай дыктатурай!

---

## Развал Грамады.

Працэс развалу Грамады, які пачаўся пасьля арышту грамадаўскіх паслоў, цяпер дабягае сваго канца. З пачатку трудна было распазнаць у якім ён ідзе кірунку. І толькі цяпер, беспасрэдна перад выбарамі, калі палітычнае жыцьцё пачынае біць мацней, зусім ясна зарысавалася ўся глыбіня гэтага развалу і формы, у якія ён выліўся. Цяпер можна сказаць, што развал Грамады пайшоў у трох кірунках. Першая адышла ад Грамады найбольш пасыўная частка яе. Гэта тая аграмадная палітычна няграматная маса сялянства, а часткова і той інтэлігэнцыі, якая запісалася ў Грамаду проста дзеля нейкай моды, альбо заманулася ў Грамаду рознымі абяцанкамі - цацанкамі.

Гэта частка Грамады, як палітычная сіла перастала істнаваць зусім. Яна цяпер баіцца кожнай праявы палітычнага жыцьця, для яе кожная палітычная партыя, гэта—клетка, увайшоўшы ў якую, пападзеш у вастрог. Другая частка Грамады з ясна акрэсьленай нацыянальнай ахварбоўкай больш актыўная, зразумеўшы з часам, чым сапраўды была Грамада і куды яна вяла і прывяла сялянства — спужалася рэзультатаў свае працы.

---

## „Начальства“ забараніла.

Ёсьць рэчы, якія ганаруюцца ў кожнай грамадзкай групе. Ёсьць пастункі, якія ўсюды і заўсёды адбіраюць ад чалавека, які так пастунае, імя джэнтэльмэна і пераводзяць яго да разраду тых людзей, якім перастаюць падаваць руку.

Цяжка жывецца беларускай вучнёўскай і студэнскай моладзі, дзецям сялян, якія стогнуць ад злыбедаў, што апанавалі беларускую вёску. Моладзь імкнецца да сьвятла веды, да асьветы, каб магчы з пасьпехам змагацца з соцыяльным злом і ня быць такімі цёмнымі, як іх бацькі.

Большасьць з іх недаядае, пазбаўлена найпатрабнейшых рэчаў, адзежы, кніжак, памешканьня, якое ў Вільні надта дарагое.

Не пад сілу селяніну аплаціць памешканьне за сына ці дачку ў горадзе і дзеля гэтага многа сялянскіх дзяцей кідае навуку, толькі што яе пачаўшы. Беларусы пазбаўлены свайго мецэнацтва.

Ахвярнасьці на навуку бяднейшых ня бачым і сярод палякоў, якія маюць сваю буйную буржуазію. Па вайне нейк пераменіліся пагляды на ахвярнасьць, і яна цяпер ня ў модзе.

Папаўшы ў школу, беларускія вучні з вялікім захопам бяруцца за навуку і для яе зносяць усе прыкрасьці паўгалоднага і паўхалоднага жыцьця. Многія, як нам ведама, кормяцца сухім хлебам, бо прысланага з дому бацькамі хапаець толькі на хлеб. Яшчэ большы процант жыве ў вельмі негігіенічных варунках на акраінах гораду, у непапальваных памешканьнях, траціць час і энэргію, мучыцца ўжо змалку, каб змагчы істнаваць у горадзе, дзе ёсьць магчымасьць, пакуль хопіць сіл ў у здаровым сялянскім маладым целе, якнайбольш скарыстаць з таго, што дасьць школа.

Беларускае грамадзянства мала памагае сваёй вучнёўскай моладзі, бо яно мала мае само.

Коопэрацыя самога грамадзянства на шляху солідарызму спатыкаецца з такімі перашкодамі, што цяжка яму здабыцца на пляновую акцыю на карысьць сваіх вучняў. Тым больш дзікім, тым больш агідным і нечалавечым аказваецца наступнае зьявішча ў нашым бедным беларускім жыцьці.

Ведаючы добра аб матэр'яльным палажэньні беларускай вучнёўскай моладзі, аб яе беднасьці і патрэбах, істнуючая ў Вільні дабрачынная місія з Амэрыкі мэтодыстых *па просьбе бацькаўскага камітэту Віленскай Беларускай Гімназіі* арганізавала інтэрнат для вучаніц гэтае гімназіі. Інтэрнат мае ўсе выгады: чыстыя сьветлыя пакоі, пасьцель, сьвятло, ванну і апеку і можа якраз быць тым месцам, дзе спакойна і бяз трывог, без марнаваньня сілаў на многавярстовую штодзенную хадзьбу ў гімназію, у цяпле і выгадзе беларуская вучаніца змажа вучыцца і спакойна працаваць.

Там-жа ў інтэрнаце могуць беларускія ся-

Яна парвала з Масквой і Менскам, адкуль Грамада чэрпала натхненьне і грошы для сваё працы. У нетрах яе ідзе пераацэнка ўсяе праграмы і тактыкі Грамады. Пераацэнка гэта, яшчэ не закончылася, яшчэ не прывяла да стварэньня новай ідэалёгіі, новай праграмы. Для гэтай часткі дагэтуль зьяўляецца ясным толькі адно: беларускія сялянскія арганізацыі ня могуць вясьці сваю працу па указу Масквы. Камунізм—гэта загуба беларускага сялянства.

Беларускі сялянскі рух ня можа ісьці і нармальна разьвівацца на шляху, які вядзе тутэйшае беларускае сялянства ў абняцьце чужой дзяржавы. Толькі каардынацыя сялянскага руху з дзяржаўнымі інтарэсамі Польшчы можа даць магчымасьць нармальнага яго разьвіцьця.

Вось рэальныя дасягненьні гэнай пераацэнкі. Парваўшы з асновамі прошлага, яны ня маюць адвагі сказаць усяе праўды шырокім масам сялянства, ня маюць адвагі прызнацца да сваіх даўнейшых абмылак, баяцца страціць гэным прызнаньнем астаткі сваіх уплываў сярод тэй нязначнай часткі сялянства, якая дагэтуль яшчэ дыхае атручаным Грамадою паветрам. Ня маючы грунту пад нагамі, пазбаўленыя ідэйнага фундамэнту, яны вісяць цяпер у паветры, альбо шукаюць прытулку ў іншых беларускіх палітычных арганізацыях.

Трэцяя частка Грамады — згуртаваная каля „Нашых Праўд", „Прац" і ўрэшце „Думкі Працы" вядзе чыста камуністычную работу і зьяўляецца па ідэалёгіі сваёй і характару працы нічым болей, як аддзелам Кам. Партыі Зах. Беларусі, апранутым дзеля тактычных мэтаў у беларускую вопратку.

Мы лічым сваім грамадзкім абавязкам сказаць сялянам аб гэтых панох усю чыстую праўду і каб сялянства нас лепш зразумела мусім называць рэчы іх настаяшчымі імёнамі. Сялянства наша павінна ведаць, кім сапраўды зьяўляюцца іх няпрошаныя абаронцы з „Думкі Працы", якая праўдзівая твар іх, якія сапраўды іх імкненьні. Дыктатура кучкі камуністых над сялянствам; савецкі рай, ў каторым сялянства стогне пад цяжарам непасільных падаткаў, рай, у каторым селянін так згалеў, так зьбяднеў, што боты можа насіць толькі ў вялікае сьвята, рай, у якім беларускую зямельку, каторую потам сваім абліваў — селянін беларускі—яны аддаюць у рукі гандляроў і наагул людзей, дагэтуль нямаючых нічога супольнага з земляробствам, рай, у якім яго камуністычныя „архаңёлы" апрацоўваюць і праводзяць у жыцьцё плян перасяленьня цэлага міліону беларускіх сялян у далёкую Сыбір у краіну холаду, голаду і сьмерці.

Вось некалькі кветак з букету паноў, згуртованых каля „Думкі Працы" — якімі яны хочуць ашчасьлівіць беларускае сялянства.

Развал „Грамады" даходзіць да свайго лёгічнага канца і спыніць гэты развал ня могуць ніякія сілы.

---

## „Думка Працы" і арышты грамадаўцаў у бальшавікоў.

У № 42 „Бел. Дня" у артыкуле „Лёс Грамадаўцаў у Б. С. С. Р.", мы апісалі, зьдзекі камуністых над грамадаўцамі ў Б. С. С. Р. У іх мы расказалі, як заманутыя абяцанкамі тутэйшых бальшавіцкіх агентаў, грамадаўцы шукалі прытулку і працы ў межах Б. С. С. Р., уцякаючы ад прасьледаваньня польскай паліцыі, і як заместа гэных абяцанак, пападалі там у рукі Г. П, У., якое, пратрымаўшы іх у працягу 5 — 6 месяцаў у вастрогах, высылала да Польшчы, кажучы: „Уцякайце назад і каб больш да нас не паказ-

---

лянскія дзеці вучыцца ангельскай мовы, якая так цяпер патрэбна інтэлігэнтнаму працаўніку.

Словам, знайшліся добрыя людзі і захацелі памагчы найбольш гэтае дапамогі патрабуючым: беларускім вучаніцам.

Астаецца толькі падзякаваць гэтым добрым людзям і карыстацца з іх добрага і прыхільнага да нас сэрца.

Але аказваецца, што беларускім гімназісткам забаронена скарыстацца з гэтага.

Дырэкцыя гімназіі, як да нас дайшлі зусім спраўджаныя весткі, забараніла пад пагрозай выключэньня са школы ісьці ў гэты інтэрнат.

Гэтая самая Дырэкцыя Беларускае Гімназіі пазваляе сваім вучаніцам жыць, дзе хочуць, на прыватных кватэрах, дзе могуць быць розныя абычаі і дзе вучаніцы хутка могуць знаёміцца з брудам мяшчанскага акраіннага жыцьця.

Гэтая самая Дырэкцыя раптам з няведамых для здаровага розуму повадаў забараніла пад страхам найбольш суровае кары — выключэньня з гімназіі — скарыстаць з інтэрнату (памешканьня) ангельскае жаночае місіі мэтодыстых.

Але яна-ж добра ведала, што гэта місія са згоды Дырэкцыі і Бацькаўскага Камітэту гімназіі, наймае пад інтэрнат памешканьне, ўстройвае яго, робіць рэмонт, наймае службу і выдаець на гэта вялізарныя грошы. Дырэкцыя гэта ведала, бо прасіла інтэрнат і гадзілася на жыцьцё ў ім сваіх вучаніцаў.

I толькі тады, калі ўсё было гатова, калі вучаніцы захацелі пайсьці ў прыгатаванае для іх памешканьне, тады раптам знайшліся нейкія паважныя прычыны, якія змусілі не абы каго, бо Дырэкцыю Гімназіі, вучыцялёў і выхаваўцаў нашае моладзі, неяк дзіка і нячэсна ашукаць мэтодысткую місію ў Вільні. Мы не ўваходзім ужо ў тое, што гэтым чынам Дырэкцыя Беларускае Гімназіі і Бацькаўскі Камітэт скрыўдзілі сваіх вучаніц, паказалі недапусьцімае няхлюйства і поўную нядбайнасьць аб іх лёсе, але сваім паступкам з місіяй Дырэкцыя паказала, што нельга верыць яе слову, ашукала добрых і шчырых людзей, пазбавіла сябе імя шануючага сваё слова чалавека. У добрыя часы, калі моралі і этыкі да звычайнае жыцьцёвае чэснасьці не перарабілі „пабухарынску у марксіцкім сосе" такім людзям у грамадзкай рабоце ня было месца.

Мы будзем з зацікаўленьнем чакаць, ці Дырэкцыя Віленскае Беларускае Гімназіі не адумаецца ды не паправіць свайго дзікага паступку, ці не пераможаць у ёй дбайнасьць аб лёсе давераных ёй дзяцей і аб сваё чэснае імя.

Бо хочам думаць, што гэта лішні страх перад нявідзімым нейкім „начальствам", якое руйнуе нашае беларускае жыцьцё.

*Саўліч.*

валіся“. Артыкул гэты мы закончылі пытаньнем, скірованым да „Права Працы“:

„Адчыняючы гэтую цёмную старонку Грамады, мы пытаемся: хто вінават ўва ўсім гэтым?! Хто вінават, што беларускіх сялян і беларускую моладзь справакавалі і ашукалі.

„Няхай газэта „Права Працы“ і іншыя ёй падобныя газэты, якія за юдашавыя грошы ўвасхваляюць „савецкі рай“, адкажуць нам і ўсяму беларускаму народу, чаму ў Савецкай Беларусі ў вастрогах знаходвіцца больш беларусаў-грамадаўцаў, чымся ў Польшчы?“

На гэты наш вызаў адгукнулася насьледніца „Права Працы“ — „Думка Працы“ ў № 3 за 11 студня 1928 году.

У артыкуле „Надзеі п. п. Умястоўскага і Гурына і іх аргумэнтацыя“.

У гэнай стацьці пісакі „Думкі Працы“ пішуць аб Ф. Ум. і Гурыне „страшэнныя“ рэчы. Найбольш дастаецца Умястоўскаму. Тут прыпамінаюцца яго розныя „праступленьні:“ ён быў польскім урадоўцам, атрымаў одпуск, мае цяпер уладу, імкнецца быць адзіным прадстаўнікам беларусаў, жадае мандату, адным словам „Д. Працы“ расказвае аб Умястоўскім розныя „страшныя“ рэчы, якія, разам узятыя, выглядаюць на гарох з капустай, прыпраўленай ілжой, брахнёй, і дэмагогіяй, аблічанай на цемру нашага сялянства. А калі ідзе справа аб ясным адказе, на выразна пастаўленае „Бел. Днём“ пытаньне, хто вінаваты, што беларускіх сялян і беларускую моладзь справакавалі і ашукалі, дык „Д. Працы“ тлумачыць гэнае пытаньне нашай наіўнасьцю.

Усялякага адказу спадзяваліся мы на нашае пытаньне, спадзяваліся ўсяе тае брахні, якою так багаты „Праўды“ і „Працы“; спадзяваліся ўсяе тае ілжы, якая б'е крыніцай з кожнага радка гэнае плюгавае газэціны, спадзяваліся ўрэшце поўнага маўчаньня, так, як гэта было на пытаньне наша, ці ня ведаюць часам паны з „Працаў“, куды іх сябры з Б. С. С. Р. падзелі вядомага беларускага мастака і драматурга Ф. Аляхновіча *), але такога прызнаньня, што трэба быць наіўным, каб ня ведаць, што беларускіх сялян і беларускую моладзь справакавалі і запоўнілі імі ня толькі польскія, але і савецкія вастрогі, тыя-ж самыя паны з „Нашых Праўдаў“, „Працаў“ і ўрэшце з „Думкі Працы“ — сапраўды такога прызнаньня мы не спадзяваліся.

Дзякуем, паночкі, за навуку, цяпер будзем ведаць, што думаць аб Вас лепш, чым вы ёсьць, што чакаць ад вас адказу на самыя агідныя закіды, — гэта наіўнасьць.

---

*) Цяпер усё беларускае грамадзянства ведае, што тыя самыя паны з розных „Праўдаў“ і „Працаў“ абяцанкамі шырокай і добра аплачванай працы зманулі Ф. Аляхновіча ў Б. С. С. Р., дзе сябры іх з Г. П. У., дазволіўшы яму месяц часу пагуляць на волі, саслалі яго бяз усялякага суда ў катаргу на Салавецкія астравы.

## Жадаем тэрытарыяльнае аўтаноміі Літоўска-Беларускіх Земляў.

## Ўсход.

Ледзь настане расьсвет,
Ўжо пурпуравы цьвет
На усходзе паволі красуе.

Агнявое лісьцьцё,
Так палае усё,
Быццам ветрык яго расхвалюе,

Сыпне іскры вянком,
А праменьні кругом,
Быццам звоньнікі, цягнуцца ў звышша.

Срэбнай хмаркі узор,
Як раса, як убор,
На цьвет падае, чырваньню дыша.

Ён зіяе гарыць,
Чырвань грае-блішчыць,
Расьцьвітае, ясьнее бясконца.

Гіне чырвані цьвет,
Ўжо мінае расьсьвет
І ўзыходзе магутнае сонца.

*Вітэблянін.*

## Голас беларускай вёскі.

Рэдакцыя „Беларускага Дня“ атрымала пісьмо такога зьместу:

„Паважаны Пане Рэдактар!

К падыходзячым выбарам да нас зьяўляецца многа *агітатараў з бальшавіцкім напрамкам* і баламуцяць наш вясковы народ. Дайце якуюнебудзь раду, каб *абараніцца ад іх* і пазнаёмце нас з сваею часопісьсю і вышліце хоць пробны нумар і праграму для арганізаваньня вясковых хаўрусоў. З пашанай (—) *Міхал Карповіч*“.

Гэты голас беларускага працоўнага селяніна найлепш характарызуе настроі беларускае вёскі, якая далася раз ашукаць дзікай агітацыяй б. Грамады. Заплаціўшы дорага за даверые да грамадаўскае дэмагогіі, вёска наша зразумела, што небясьпека сялянскаму жыцьцю грозіць ад бальшавікоў, ад усіх бальшавіцкіх агентураў і агентаў, якія маюць на мэце толькі „баламуцтва“ беларускага сялянства, дбаючь яны аб тым, каб сапсаваць яму і бяз гэтага цяжкое жыцьцё, кінуць у польскую турму за праступную работу, а калі абдураны беларус захоча шукаць ратунку на бальшавіцкім баку, дык там яго чакаюць яшчэ горшыя бальшавіцкія турмы.

Перад выбарамі ў Сойм, да 11 сакавіка разайдзецца па нашых землях цэлая хмара бальшавіцкіх агітатараў, бо ў Менску іх спэцыяльна падгатаўляюць для перадвыбарнай агітацыі. Сяляне, сьцеражэцеся ўсіх агітатараў, якія захваляюць камуністых. Ганеце іх з вёсак і хатаў, бо гэта ашуканцы і ворагі беларускага сялянства.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як уберагчыся ад пажару.

(Гл. № 1 (41) „Белар. Дня").

**Пажарныя помпы, ужываньне іх падчас пажару і іх дагляд.**

З прычыны таго, што пажары зьяўляюцца для нашых вясковых гаспадароў найгоршаю плягаю, найгоршым ворагам, нішчачы іх дабро, дабытак, неабходным дзеля гэтага ёсьць тое, каб кожная вёска, хочучы бараніцна проці іх, мела-б у сябе проціпажарныя інструмэнты, арганізаваўшыся перад гэтым у пажарную дружыну. Гэтае арганізаваньне можа многа ў чым памагчы той ці іншай вёсцы. Па-першае, добра вывучаная дружына, пры тушэньні пажару, можа многа больш зрабіць адна, чымся сяляне ўсіх ваколічных вёсак, узятыя ўсе разам. Кожны там ведае сам, што яму трэба рабіць, дзе стаяць і як захавацца. Бо ў той час, калі сяляне лятаюць падчас пажару, прыказваюць адзін аднаму, галосяць і апускаюць рукі, пажарная дружына, забясьпечаная ўсімі пажарнымі прыладамі, кідаецца сьмела на агонь і рэдка калі яго ня спыняець. Падругое сяляне, а знача маладыя і здаровыя хлапцы вёскі, арганізованыя ў пажарную дружыну, могуць заўсёды хутчэй і *таньней* дастаць пажарныя прылады, зьвярнуўшыся з гэтаю мэтаю да Дырэкцыі Ўзаемных Страхаваньняў, якая надта падтрымлівае гэтыя добрыя замеры сялян. Гэтыя зносіны з Дырэкцыяю Ўзаемных Страхаваньняў, найляпей рабіць цераз страхавых агентаў, якія знаходзяцца ў кожным павеце і якія на месцах могуць парадзіць сялянам ува ўсім.

Цяпер, што да самых пажарных прыладаў, то я думаю, што сялянам тае ці іншае вёскі, якія купяць гэтыя прылады, ня шкодзіла-б ведаць устройства гэтых прыладаў і тое, як з імі трэба абходзіцца. Каб даць дакладнае апісаньне гэтых прыладаў, я пачну ад самае галоўнае, ад самае неабходнае рэчы пры тушэньні пажараў, гэта знача ад *помпы*. Вось-жа пажарнаю помпаю называецца такі прылад, які мае тое свойства, што можа выліваць набраную ваду на меншбольш далёкае месца. Гэтыя помпы бываюць альбо са скрынкамі для вады, альбо бяз гэтых скрынак.

Кожная з помпаў складаецца з многіх частак, як: каромісла, паваротны, кубкі, цыліндры, паветраны каўпак, рукавы (адзін, які ўбіраець ваду, другі, які яе выпускаець) і ўрэшце наканечнік.

a) Кароміслам завецца гэткая жалезная палка, падыйманьнем і апусканьнем якое прыводзіцца ў рух помпа;

b) кубкамі называюцца тыя мэталічныя часткі, якія прымацованы паваротамі да каромісла і якія знаходзяцца ў цыліндрах; пры рабоце каромісла падыймаюцца і апускаюцца, ня выходзячы з цыліндраў; яны набіраюць і выпіхаюць ваду;

c) медныя простыя трубкі, у якіх месьцяцца кубкі, называюцца цыліндрамі, а паміж цыліндрамі знаходзіцца медны ці жалезны паветраны каўпак.

d) Рукавом забірным, называецца такая кішка, якая ўбіраець у сябе ваду; выліўным рукавом завецца тая кішка, якая выводзіць ваду на двор; трубка, якая знаходзіцца на канцы выліўнога рукава, называецца наканечнікам. Рукавы бываюць скураныя, гумовыя, льняныя і канапляныя; самыя танныя з рукавоў канапляныя, хаця яны і самыя нямоцныя, дзеля гэтага і абходзіцца з імі трэба надта асьцярожна.

Пасьля кожнага ўжытку помпы, трэба зьняць рукавы і павесіць іх, каб добра прасушыліся, пры чым трэба вешаць так, каб адзін канец рукава быў апушчаны ўніз, а гэта дзеля таго, каб вада, якая яшчэ затрымалася ў рукаве, магла выцячы. Бо калі гэтага не зрабіць і даць рукавом высахнуць у сагнутым палажэньні, то пры першым ужытку помпы, рукавы могуць надта скора лопнуць на тым месцы, дзе гэтыя рукавы былі сагнутыя падчас высыханьня.

Калі падчас ужытку помпы лопне рукаў, то дзеля таго, каб не перастала помпа дзеяць, заразжа трэба лопнуўшае месца добра абвязаць ганучаю, а дзеля таго, што гэтая работа надта сьпешная і пры гэтым ня надта моцна можна абвязаць рукаў ганучамі, то дзеля гэтага радзіцца другі спосаб скорага залатаньня рукава. Робіцца гэта так: яшчэ перад ужываньнем помпы, ад выліўнога рукава адрэзваюцца два кускі яго, даўжынёю з паўлокця. Гэтыя адрэзаныя кускі накладаюцца на выліўны рукаў, у невялікіх ад сябе адступах, адзін бліжэй да наканечніка, другі бліжэй да цыліндра. Калі рукаў падчас пажару лопне, то зараз-жа, каб помпа не заставалася бяз ужытку ні аднае нават мінуты, трэба чым хутчэй нацягнуць на лопнуўшае месца тыя кускі рукава, якія мы адрэзалі, і помпа ў нас ізноў можа спраўна працаваць.

Працуючы падчас пажару помпаю, трэба памятаваць тое, што рукавы ніколі не павінны быць сагнутыя, а абавязкава трэба, каб яны былі ў простым палажэньні, бо тады яны ня псуюцца і вада з іх б'ець з большаю сілаю.

Чым карацейшы будзе паліўны рукаў, тым вышэй і далей б'ець з яго вада, а дзеля гэтага трэба мець пры помпе паліўныя рукавы карацейшыя; набірныя могуць быць вольнае даўжыні.

Дзеля таго, каб пажарныя інструмэнты былі ўва ўсякую мінуту здатныя да ўжытку, трэба іх трымаць у чыстым і сухім месцы, а ўзімку яшчэ і ў цёплым месцы.

Каб пераканацца, ці помпа добра дзеець, трэба хаця-бы раз у тыдні прабаваць яе і калі знойдзецца нейкая няспраўнасьць, пастарацца чым хутчэй яе паправіць.

Калі пры ўжываньні помпы акажацца, што яна не выкідаець вады так высока, як даўней, а ў цыліндрах паверсе кубкаў будзе вада, то гэта значыць, што кубкі ня зусім цесна ўваходзяць у цыліндры, а дзеля гэтага трэба іх загадзя акруціць канаплянымі вяровачкамі, альбо ніткамі, каб яны цясьней уваходзілі ў цыліндры, а цыліндры трэба вымазаць салам, але пры гэтым трэба добра глядзець, каб паміж сьценкамі цыліндраў і сьценкамі кубкаў, не папаў пясок.

Калі можна прыкмеціць, што вада, выходзячая з рукава, пачынаець кракатаць і трашчаць, то трэба зьвярнуць увагу перш за ўсё на набірны рукаў, бо гэтае кракатаньне вады бываець ад

таго, што альбо набірны рукаў ня зусім пагружаны ў ваду, альбо ён лопнуў; у першым выпадку трэба яго глыбей упусьціць у ваду, а ў другім выпадку трэба чым хутчэй рукаў залатаць.

Працаваць пры помпе трэба плаўна, бяз нагальных падрываў кароміслаў, бо ў такім выпадку надта хутка можам папсаваць помпу. На самым пачатку пампаваньня, ніколі ня трэба затыкаць наканечніка рукава пальцам, бо ад гэтага надта часта лопаюць рукавы.

Вада, выходзячая на двор з паліўнога рукава, называецца струёю. Струя гэтая можа быць трох гатункаў і называецца простаю, дажджавою і навеснаю.

Дзеля таго, каб атрымаць простую струю вады, ня трэба ніякага стараньня; даволі трымаць у руках паліўны рукаў і пакіраваць яго, куды нам спадабаецца; гэтаю струёю тушацца бярвенчатыя будынкі, вуглы сьценаў і столі хатаў.

Каб атрымаць дажджавую струю вады (ад дажджу), трэба канец пальца рукі, так прылажыць на наканечнік рукава, каб вада біла ў канец і расьсявалася, прыймаючы форму дажджу. Гэтаю струёю тушацца саламяныя стрэхі, стагі сена ці саломы і наагул усё тое, што гарыць вялікім полымем. Каб атрымаць навесную струю, трэба рукаў падняць і трымаць уверх з такім разьлічэньнем, каб вада, падаючы зьверху ўніз, падала туды, куды мы хочам яе скіраваць. Гэтаю струёю трэба тушыць тады, калі ўся будыніна ахоплена агнём і да яе сярэдзіны няма доступу.

*Гаспадар.*

## Буракі (Beta vulgaris).

Ня менш важнай, як бульба, плугапольнай расьлінаю зьяўляецца і бурак, які адносіцца патанічнаму да сям'і Марэвых (Chenopodeaceae) і расьце ў дзікім відзе ў Эўропе ад Міжыземнага мора аж да Касьпійскага, ласьне найбольш у Пэрсіі. Расьліна гэта двулетняя і мае тры віды: 1) цукровыя буракі — (Beta vulgaris saccharifera), з якіх фабрычным спосабам дабываецца цукер, якога цукравыя буракі часта маюць да 14—17%; 2) жоўтыя і чырвоныя буракі з цёмна-чырвоным далікатным мясам, якія разводзяцца, як сталовыя гародніны—(Beta vulgaris crucenta), і 3) кармавыя буракі—(Beta vulgaris crassa), якія ідуць пераважна на корм быдлу.

Усе гэныя буракі маюць у сабе больш-менш пэўны % цукру, дзеляцца на дужа гатункаў, але дзеля нас на Беларусі найбольшую вагу маюць кармавыя буракі і сталовыя, бо ў нашым клімаце і грунтох цукровыя буракі ня ўсюды могуць удавацца, хаця робленыя пробы даказваюць, што і ў нас могуць расьці цукровыя буракі, толькі менш маюць цукру, гэтак 8—10%.

Культура буракоў ужо была вядома ў старой даўнасьці, іх разводзілі навет у старым Рыме. Цукровыя-ж буракі пачалі разводзіць толькі ў першай палове восемнаццатага веку, калі ў Эўропе пад той час навучыліся толькі дабываць з буракоў цукер.

Што датычыцца грунтоў, то для ўсялякіх буракоў найлепшым месцам будзе глыбокі, багаты перагноем і вапнаю гліністы, сугліністы чарназёмны грунт, хаця трэба заўважыць, што кармавыя буракі нават вельмі добра ўдаюцца і на супясчаных грунтох. Дзеля таго, каб буракі добра расьлі, трэба яшчэ з восені поле глыбока ўзараць і зрабіць грунт пухкім. Вядомая рэч, што першы раз звычайна поле з-пад збожжа арэцца мелка, а глыбокая орка, аб якой ідзе мова, даецца пад буракі другі раз увосень, пасьля чаго на зіму трэба пакінуць поле небаранованым, каб яно добра перамерзла. Раньняю вясною поле баранүюць, вывозяць сьвежы гной, лепш з-пад быдла, заорваюць гной на добрай зямлі на глыбіню да 20 сант., зноў баранүюць, пад гэты час навет добра прайсьці па полі вальцам і садзяць сеялкаю „Плянэт“ радкамі буракі, або робяць градусы, (радкі-грэбяні) як пад бульбу, і зьверху радкоў садзяць насеньне буракоў, якога патрабуецца на дзесяціну ад $1\frac{1}{2}$ да 2 пудоў. У адным фунце насеньня буракоў бывае ад 9 да 30 тысяч зярнятак, але трэба ведаць, што ўсходжасьць іх у сярэднім 12—10%.

Часта пад буракі даюць гной і з восені, а на грунтох без перагною стасуюць яшчэ і штучныя гнаі: на цяжкіх глінiстых грунтох—тамасоўкі да 30 п., калійнай (паташовай) солі да 12 п. і чылійскае салетры да 6 п. на гэктар; а на лёгкіх пясчаных грунтох трэба тамасоўкі і калійнае солі прыбавіць па якім мяшку (па 6 п.), а салетры пудоў па 3 больш. Даючы тамасоўку і соль, можна расьсяваць пад час апошняе вясьнянае оркі, а салетры даецца тады, калі буракі ўжо возьмуцца расьці.

На малых агародах, дзе ёсьць большы дагляд і можна паліваць, лепш высяваць семя буракоў мочанае, альбо навет праросшае. Дзеля чаго купу насеньня буракоў паліваюць вадою ў стасунку на адзін пуд насеньня—$\frac{1}{2}$ вядра вады і трымаюць яго мокрым цэлую пору, памешваючы, каб ня ўгрэлася. Можна садзіць адразу на другі дзень, або чакаюць дзён 5—7, паліваючы вадою, пакуль пачнуць буракі наклёўвацца — за раз-жа трэба іх садзіць. Калі пасеяць сухім насеньнем, то буракі могуць праляжаць у зямлі якіх 10 — 15 дзён непраросшымі. Вельмі сьпяшацца з пасевам буракоў ня трэба: садзяць іх гэтак у палавіне траўня, хаця буракі зносяць без вялікае шкоды прымаразкі да 2° R. Калі вясна занадта цёплая, а позна пасеяць буракі, то на іх часта нападае земляная блыха (Haltica), якая шкодзіць ім.

Як толькі пакажуцца ўсходы буракоў, што ў мочаных бывае на 5—7 дзень, а ў нямочаных на 14—16 дзень, трэба зрабіць матыжэньне радкоў, каб зьнішчыць траву і зрабіць грунт пухкім, асабліва пасьля дажджу.

Калі буракі разаўюць ужо 4 лісьцікі, трэба зрабіць прарыўку буракоў: гэта значыць вырваць слабейшыя расьлінкі, а пакінуць больш буйнейшыя бурачкі адзін ад аднаго на 20—30 сант., (3—4 вяршкі). Пазьніцца з прарыўкаю ня трэба, бо бурачкі будуць цягнуцца і ўсе расьлінкі будуць вельмі тоненькімі і слабымі. За першаю прарыўкаю ідзе паўторнае матыкаваньне, а дзён праз 10—„праверка“, або апошняя прарыўка гэтак, каб буракі расьлі адзін ад аднаго ня менш як на 6—8 вяршкоў. Часамі патрабуецца і трэці раз матыкаваць, словам абсыпку або акучваньне паўтараць, пакуль лісьцё буракоў ня возьме пад сябе ценю. Каб маладым расьлінкам ня шкодзіла земляная блыха (Haltica), добра пасыпаць радкі буракоў попелам з печы.

Калі буракі ўжо вырасьлі настолькі, што павыпіраюцца з зямлі, добра іх тады абсыпаць, матыкуючы.

Як толькі лісьцьцё пачне жоўкнуць, можна буракі ўжо выкопваць, дзеля чаго падкопваецца бурак лапатаю, абчышчаецца тупым бокам нажа ад зямлі, абрэзваецца кончык карэньня бурака і гічка (лісьцьцё), на якіх два сантымэтры ад галоўкі бурака. Буракі складваюць у купы і прыкрываюць лісьцьцём, каб не завялі ад сонца. На зіму буракі складваюць у купы і робяць капцы гэтак сама, як і для бульбы, прыкрываючы іх саломаю і зямлёю. Прад гэтым добра перасыпаць складзеную купу буракоў сухім жоўтым пяском: тады яны ня хутка псуюцца.

Калі хочуць атрымаць насеньне ў сваёй гаспадарцы, то, выкопваючы буракі, адбіраюць лепшыя з іх і, не абрэзваючы, асьцярожна складаюць іх у пограбе, перасыпаючы сухім пяском. Вясною высаджваюць на агародзе і калі насеньне пажоўкне, зрэзваюць, падсушваюць, абмалочваюць і хаваюць у сухім месцы. Трэба сказаць, што буракі з свайго насеньня праз год-два вырадзяцца, дзеля чаго заўсёды лепш справадзіць насеньне з вядомага добрага насеннага складу. Насеньня буракі могуць даць з гэктару 100—150 п. і яно ня траціць свае сілы прарастаньня ў працягу 2 — 5 гадоў.

Ураджай самых кармавых буракоў з гэктару можна мець ад 2000 да 4000 пудоў, а часамі нават і больш—да 6000 пуд. Трэба тут зазначыць, што кармавыя буракі могуць надта добра ўдавацца і на балотных грунтох, асабліва на непакрытых травяных балотах.

Лісьцьцё буракоў таксама дае вялікую карысьць: з аднаго гэктару можна лёгка мець да 80 цэнтнараў (480 п.) зялёнае масы.

Бурачнае лісьцьцё ў маладым веку можна скармліваць свіньням, быдлу, авечкам. Калі пастарэе дык лепш усяго *сіласаваць* (квасіць у земляных ямах), або сушыць і карміць авечкі і быдла.

---

Найлепшымі сартамі сталовых буракоў будуць: 1) *„Эгіпэцкіе“* з плоскімі цёмна-чырвонымі буракамі, 2) *„Каролева-Чорныя“*—паўдоўгія цёмна-чырвоныя буракі і 3) *„Эрфурцкія“*—доўгія цёмна-чырвоныя — адны з самых лепшых, далікатных у смаку, сартоў.

З кармавых буракоў, якія бываюць рознае формы і колеру: 1) *„Исполінскія“* — доўгія буракі, белыя і чырвоныя;

2) *„Мамут“* чырвоны—авальнае формы.

3) *„Экэндорфскія“* —чырвоныя і жоўтыя, падобныя да поўнага мяшка;

4) *„Обэрндорфскія“*—чырвоныя і жоўтыя — круглыя. Апрача гэтых гатункаў, якія часта растуць па 6—10 кілёгр. адзін бурак, есьць яшчэ шмат іншых гатункаў.

На адзін морг найбольш сеюць добрых з насеньня буракоў да 8 кілёграм., а на граду даўжынёю ў 10 саж. і шыр. ў $1/2$ саж. патрабуецца да 50 грам. Кілёграм насеньня буракоў каштуе ад $2^1/_2$ да 5 злот.

---

Цукровыя буракі амаль не заўсёды з белым мясам, па форме, як верацяно, вага аднаго бурака ня больш $1^1/_2$ — 2 ф., лісьцьцё яго не стаіць проста, а сьцелецца і маець курчавыя берагі.

Найлепшыя гатункі з цукровых буракоў: з нямецкіх—„Сілезкія“, „Імпэрыяль“, „Клейнванцлебэн“, а з францускіх — „Вільморэн“ белы і рожавы, „Легран“, „Янус“ і шмат іншых.

Дык вось садзеце кармавыя буракі, бо яны даюць карысьці больш у 3 разы, як ячмень з аднаго гэктару. *Я. Х.*

---

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Настаўка ў вульлі Лявіцкага.

Настаўка, ўведзеная для вульля Лявіцкага, зусім яго ўдасканаліла і прыстасавала для нашых мясцовых варункаў, г. зн. для нашай меданоснай краіны. Перад гэтым вулей Лявіцкага быў няпрыдатны для нас толькі дзеля адной прычыны (выключаючы ўсе іншыя), а імення быў замалы дзеля таго, каб у ём можна было сабраць больш колькасьць мёду, добра яго высьпеліць і пры гэтым ня траціць многа часу на частае яго выкручваньне, дражнячы адначасна і турбуючы пчолкі, а за гэтым і перашкаджаючы ім у працы. Настаўка-ж усё гэтае ўсунула і ўсё гэтае скасавала, ставячы вулей Лявіцкага нароўні з вульлём Дадана-Блатта і з іншымі настаўковымі вульлямі; так што сёньня ўдасканалены настаўкаю вулей Лявіцкага можа зусім сьмела канкураваць з усімі іншымі вульлямі, якія ў нас на Беларусі маюць месца.

Што да самае настаўкі, то гэта падоўжная, як і самы вулей Лявіцкага, скрынка, зьбітая з добра абгабляваных цалёвак, бяз дна з абодвых бакоў і з пазам на абедзьвюх бакавых падоўжных сьценках, для вешаньня рамак. Ставіцца яна на верх вульля над гняздом і гэтак пастаўленая творыць з корпусам вульля нешта як-бы суцэльнае, прадоўжваючы яго. Шырыня настаўкі ў сярэдзіне гэткая самая, як і шырыня вульля — 252 мілімэтры з гэткім самым пазам, як і ў вульлі, толькі трохі глыбейшым, бо маець 13 мілімэтраў глыбіні, а шырыні, як і ў гняздзе, г. зн. 7 мілімэтраў. Паз гэты, як я ўжо казаў, служыць для вешаньня рамак. Настаўка ўнутры маець, ня лічачы пазу, 152 мілімэтры, а рамка настаўковая, ня лічачы верхняе бэлечкі, 150 мілімэтраў, разам-жа з бэлечкаю 158 мілімэтраў.

Настаўка ня ставіцца на гняздо беспасярэдня, але на адумысных стоўбіках, якія маюць вышыню па 5 мілімэтраў. Стоўбікі гэтыя прымацаваныя цьвікамі наверсе гнездавое скрынкі, па яе рагох, адпавядаючых нарожнікам настаўкі, служаць дзеля таго, каб настаўка ляпей і мацней трымалася. Каб настаўка памясьцілася пад страхою вульля, трэба для яе зрабіць адпаведнае месца, гэткую, як-бы сказаць, скрынку пад гнездавымі рамкамі, якая выступала-б на 80 мілімэтраў над імі. У гэтую скрынку ўстаўляецца настаўка, павінна быць надта шчыльна дапасавана і ўваходзіць, як-бы сказаць, у гэтую скрынку—паз, а гэта дзеля таго, каб ня было шчылінаў па бакох, дзе маглі-б заводзіцца ўсялякія шкоднікі і цераз якія маглі-б вылазіць пчолы.

Настаўка робіцца з аднае дошкі, якая маець 165 мілімэтраў. Папярэчныя дошкі настаўкі ня маюць пазу, а маюць паз толькі дошкі падоўжныя і паз гэты павінен мець 13 мілімэтраў глыбіні. Настаўковая рамка, як мы ведаем, маець 158 мілімэт., а завешаная ў паз не даходзіць на 12 мілімэтраў да гнездавых рамак; шырыня гэтае рамкі маець 240 мілімэтраў, бэлечкі рамкі маюць па

8 мілімэтраў таўшчыні, з якіх верхняя мае ў даўжыню 204 мілімэтры, шырыні 50 мілімэтраў, а кожная ў шырыню 36 міл. Цьвічкоў, якія-б давалі пэўны адступ, паміж рамак, няма. Да настаўкі ўмяшчаецца 15 ці 14 рамак.

Цяпер, што да прадукцыі мёду ў настаўковых вульлёх, то трэба сказаць, што якраз настаўкі даюць магчымасьць прадукаваць найлепшы сьпелы мёд у рамачках, у гэтак званых сэкцыях, зробленых з тоненькіх ліпавых лучыначак. Такі мёд надта дарага цэніцца ў прадажы, а за тым той ці іншы пчаляр, які зможа выпрадукаваць такі мёд на свaёй пасецы, можа мець з гэтага і добрую славу і большую карысьць. Бязумоўна, што для гэтай мэты трэба браць вульлі толькі настаўковыя, бо ў гнязьдзе сэкцыяў зрабіць ніяк немагчыма.

Дзеля прадукцыі мёду-патакі, ня трэба ніякіх адумысных прыладаў, як сэкцыяў, а толькі бяруцца звычайныя рамкі, запоўненыя мёдам, як ён добра выстаяўся і пасьпеў, і мёд з іх пры помачы медагонкі выкручваецца. Аб прадукцыі мёду, а асабліва мёду-плястраў у сэкцыях, я пагавару з паважанымі чытачамі зусім падрабязна тады, як буду пісаць аб гэтым у асобным артыкуле; цяпер-бы мне яшчэ хацелася ўспамянуць аб адной надта важнай рэчы ў вульлі Лявіцкага, г. знача аб той перагародцы, якою адгароджваецца матка ў гнязьдзе, з мэтаю каб не зачарвіла ўсіх рамак, а толькі-б тыя мела магчымасьць чарвіць, якія знаходзяцца ў яе распараджэньні. Вот-жа я тут павінен сказаць, што ўся гэта апэрацыя з перагародкаю ёсьць для пчаляроў, а асабліва для пчолак вельмі няпрыдатнаю. Па-першае, што цэрамонія яе ўстаўляньня надта шмат забірае часу ў пчаляра, па-другое, што гэтая цэрамонія надта дражніць пчолы і перашкаджае ім у працы, па-трэцяе, што найгалаўнейшае, гэтая перагародка можа зьвясьці са сьвету матку, а за ёю і ўвесь вулей, у кожным выпадку гэтая застаўная дошка надта аслабляець сям'ю ў вульлі, не даючы магчымасьці ёй, як трэба, размнажацца.

Сёньня гэтая мэталічная застаўная дошка, ці бляха, як яе іначай называюць, ужо выходзіць з ужытку, асабліва ў вульлі Лявіцкага, (бо яна амаль што ня ў ім толькі ўжываецца), толькі дзякуючы таму, што ў гэты вулей уведзена настаўка. Што з гэтага трэба разумець? А разумець трэба тое, што настаўка даець нам магчымасьць мець зусім моцныя пні пчол, што надта важна для мёдабраньня, цераз тое пры помачы настаўкі мы можам перашкодзіць пчолкам у раеньні, ставячы настаўку і даючы ім шмат месца для працы, бо дзеля чаго пчолкі раяцца? Дзеля таго, што ім часам месца замала ў вульлі і хоцьбы мы аддушылі, ці ўкралі ад іх матку, калі ім цесна, то яны ўсё роўна выседзяць сабе другую і будуць раіцца. Вот-жа настаўка гэтыя замеры пчолак тамуець. Цераз што настаўка вывяла застаўную бляху з ужываньня? А вывяла цераз тое, што маець даволі месца на чысты мёд, і без чарвы разумеецца, бо матка ў настаўках надта рэдка чарвіць, а часта гэтага і зусім ня робіць у настаўках; не патрабуем адгароджваць маткі ў гнязьдзе, з тою мэтаю, каб мець там *іменна* месца без чарвы, дзе-бы толькі складалі самы мёд, які мы потым маглі-б выкруціць. Ня ўжываючы гэтае дошкі, ці бляхі, даём матцы вялікую свабоду, бо маець яна да сваё дыспазыцыі цэлае гняздо, а не якіх-небудзь 4—5 рамак, як гэта было тады, калі мы яе адгароджвалі бляхаю. Цяпер яна спакойна можа чарвіць па ўсім гнязьдзе і павялічваць сям'ю, а вялікая і моцная сям'я—гэта залог паводжаньня і ўвесь сакрэт пчаляра.

*Пчаляр.*

## Як выкарыстаць падмерзлую бульбу і бурак.

У вялікія маразы бываюць выпадкі, што бульба і буракі могуць у варыўні або ў блага выкапаных ямах падмерзнуць. А корм трэба берагчы і дзеля гэтага ўмець выкарыстаць мерзлыя буракі і бульбу.

Калі яшчэ стаяць маразы, дык трэба падмерзлую бульбу і буракі пакінуць у гэткім месцы, каб яны не адмерзьлі і памалу іх скарыстаць.

А калі ўжо робіцца цёпла, дык трэба ратавацца, бо як толькі бульба ці буракі адмерзнуць, дык адразу і псуюцца. Бульбу трэба выбраць і рассыпаць тонкім слоем на версе, каб яна падсохла. Яшчэ лепш высушыць яе ў печы пасьля таго, як сьпяклі хлеб. Гэткаю сушанаю бульбаю можна карміць быдла і сьвіньні. Але перад гэтым яе трэба парыць.

Мерзлыя буракі можна высушыць так-жа сама, але раней іх трэба пакроіць.

(*„Сільский Світ“*).

## Пэўны спосаб для зьнішчэньня блашчыцаў.

Часта бывае, што гаспадары на вёсках ня могуць знайсьці ратунку ад блашчыцаў, якія гнязьдзяцца ў сьценах хаты. На гэта ёсьць пэўны спосаб: трэба да пабелкі вапны дадаць якіх тры-пяць пузыркоў жоўці з парсюка або дастаць на рэзніцы жоўці з быдла, ўліць гэту жоўць у пабелку—і калі выбяліць хату, дык усе блашчыцы загінуць, як іх і ня было на сьвеце. *Я. Х.*

# Корэспондэнцыі.

### Першыя перадвыбарныяластаўкі.

(*Лужкі, Дзісьнен. пав.*).

3-га студня ў аўторак да нас даляцелі першыя перадвыбарныя ластаўкі з лагеру беларускага ксяндзоўска-сялянскага „Аб'яднаньня“ ў асобах Асіповіча з-пад Гэрмановіч і Глінскага з вёскі Рубашкі, Лужэцкай воласьці і яшчэ нейкага з Браслаўшчыны,

Ня гледзячы на тое, што прамоўцы быццам варам палітыя махалі на ўсе бакі рукамі і крычалі, людзі іх слухаць не хацелі кажучы: „Вось як раздабрыліся: ўсё даюць, толькі бяры і зямлю і лес і родную школу, толькі каб сяляне аддалі свае галасы. Чаму-ж гэта вы толькі цяпер загаманілі? „Слухаючы аб усім гэтым, хочацца сказаць: „Браты! ня верце гэтым першым ластаўкам, бо заўсёды так бывае, што той, хто выстаўляе сябе першым ды голасна гамоніць, той найхутчэй можа здрадзіць“. *Кірмашовы.*

## Культурная праца на вёсцы

*(в. Ізабеліна, Дзісьн. пав.)*

На другі дзень праваслаўных Калядаў (8-га студня) ў вёсцы Ізабеліна, Лужацкай валасьці адбыўся спэктакль. Адыграны былі: „Заручыны Паўлінкі“ і „Зьбянтэжаны Саўка“. Аматары-артысты ў асобах: Я. Тарыкава, А. Тарыкавай, А. Раманёнак, П. Раманёнак, М. Тарыкава, А. Тарыкавай, Любы Тарыкавай, Я. Алексіна, Л. Катовіча і Ю. Юрдынскай адыгралі свае ролі вельмі добра. Уся саля была перапоўнена глядзельнікамі. Пачуўшы аб спэктаклі, некаторыя папрыяжджалі за дваццаць вёрстаў.

Пасьля прадстаўленьня пачаліся скокі, каторыя зацягнуліся далёка за поўнач.

Зацікаўленая публіка дзякавала аматарам-артыстам за спэктакль і прасіла ў хуткім часе наладзіць другі. *Я. Т.*

## Школьная справа.

*(Вёска Церабостынь, Стаўпецкага пав.).*

Наша вёска вялікая, лічыць бяз мала сто хат, а школы цяпер у нас няма, і дзеці, замест вучыцца, марнуюцца.

Вось хачу напісаць некалькі слоў у газэту аб тым, як гэта сталася, што мы ня маем а ні польскай, а ні беларускай школы, хоць на беларускую школу сяляне падавалі некалькі разоў дэклярацыі школьнаму інспэктару.

Яшчэ даўней у нашай вёсцы была прыватная расейская школа і нашыя сяляне ахвотна пасылалі там сваіх дзяцей. Школа існавала да 1922 году. У 1922 годзе церабостынская школа была аб'яўлена дзяржаўнай, хутка пасьля таго да нас прыслалі вучыцеля Я. Т. Ён вучыў дзяцей у нашай школе чатыры гады і пакінуў па сабе якнайлепшую славу. Ён арганізаваў вячэрнія курсы для анальфабэтаў, з яго ініцыятывы паўстала ў нашых сялян думка аб заснаваньні ў вёсцы пажарнага гуртка, які пасьля і быў заложаны. Сяляне заўсёды знаходзілі ў яго параду па ўсялякіх справах, ён дарма пісаў просьбы і г. д.

Аднак, у 1925 г. яго перанясьлі ў Даўматаўшчыну, і ўсе спробы нашых сялян вярнуць яго назад асталіся няспоўненымі. Пісалі просьбы і да інспэктара і да куратара, аднак без рэзультату.

Прыслалі тады да нас настаўніка Ул. Т., які правучыў у нашай вёсцы да вясны мінулага году. З яго навукі сяляне былі вельмі нездаволены: дзеці мусілі зімой сядзець у неапаленай школе, цэлымі месяцамі не хадзілі да школы, бо вучыцель некалькі разоў у год рабіў „вакацыі“ на пару месяцаў.

Тады сяляне нашыя па ініцыятыве вясковых інтэлігэнтаў падалі школьнаму інспэктару дэклярацыі на беларускую школу. Праўда, былі труднасьці, напр. б. войт нашай валасьці, не хацеў зацьвярджаць подпісаў на дэклярацыях, так што сяляне мусілі па некалькі разоў хадзіць у рабочы час у валасьць за восем вёрст.

Дэклярацыі, пасланыя школьнаму інспэктару, скланілі яго прыехаць вясной мінулага году ў вёску зрабіць „dochodzenie“ і другі раз узяць ад сялян подпісы. Склікаўшы агульны сход у школьным будынку, інспэктар папрасіў сялян падпісацца або на польскую або на беларускую школу. Сяляне не хацелі падпісвацца на польскую школу, а ўсе падпісаліся на беларускую, за выняткам селяніна Ю. С., які падпісаўся на польскую школу і М. К., які падпісаўся на польска-беларускую. Інспэктар паехаў. Дзе дзеў ён гэтыя подпісы, ніхто ня ведае, хіба можа палажыў пад сукно, бо школы беларускай як ня было, так няма. Сяляне цешыліся, бо думалі, што нарэшце ў 1927-28 г. адчыняць школьныя ўлады ўрадовую беларускую школу, але дзе там!

Прыслалі да нас у гэтым школьным годзе новага настаўніка, але ён, пажыўшы ў нас некалькі тыдняў, узяў ды ўцёк.

I вось цяпер нашыя дзеці цягаюцца па вёсцы бяз ніякай навукі, цэлымі днямі таўкуцца ў баптыстых, на іхніх „боскіх“ сабраньнях, слухаюць гэтых баптыскіх казаньняў, якія атручваюць душу кожнага несьвядомага чалавека, а перш за ўсё дзіцяці.

Хлопцы ў школьным веку, сабраўшыся вечарамі, заядла „рэжуць“ у „21“ на запалкі, а часам, хоць і рэдка, на грошы. Каму з нас ня ведамы доўгія зімовыя вечары, дык вот якраз школьная моладзь, ня ведаючы як іх праводзіць, аддаецца ігры ў карты. I гэта ня дзіва, што потым трапляюцца ў вёсцы анальфабэты (няпісьменныя), хоць і так спатыкаюцца такія, што па 6 гадоў хадзілі ў школу і ня ведаюць усіх літараў. Школьныя ўлады не павінны дапусьціць да таго, каб дзеці морально псаваліся, швэндаючыся па вёсцы, а павінны хутка ізноў адчыніць школу ў нашай вёсцы. *Той самы.*

*(в. Клімантыя, Радашкаўскае вол.).*

У нашай вёсцы ёсьць пачатковая польская школа. Жыхары нашае вёскі ў большасьці сьвядомыя беларусы, чытаюць газэты і наагул цікавяцца адраджэнскім рухам.

Таму клімантаўцы ня вельмі задаволены польскай школай і жадалі-б лепш пасылаць сваіх дзяцей у родную школу, але што зробіш, калі дэклярацыі на беларускую былі адкінуты. Няхай-жа тымчасам вучацца ў польскай мове; усё-ж лепш, як ня вучыцца зусім, усё-ж будзе карысьць.

Але вось на няшчасьце ў нас сталася ў гэтым годзе так, што і школа ў вёсцы ёсьць, а дзеці, аднак, ня вучацца, і трацяць бескарысна ўвесь зімовы вольны час.

Як прыехаў з самае восені вучыцель у вёску, дык загадаў усім дзецям школьнага веку назаўтра зьявіцца ў школу. Але з тае прычыны, што тады яшчэ ня скончылася ўборка і выбіраньне бульбы было ў самай пары, шмат хто затрымаў сваіх дзяцей удому для помачы.

Скуткам гэтага былі сьпісаны вучыцелем пратаколы, па якіх асудзілі вінаватых заплаціць па два злотых, або адседзець па адным дні.

Пасьля гэтага нядоўга прышлося дзеткам вучыцца: вучыцель неяк скора захварэў і яго адвязьлі ў бальніцу. Другога вучыцеля нам ня прыслалі і таму дзеці ходзяць пустапас. Звярочваемся да Рэдакцыі з ветлівай просьбай, каб нам выкрылі, куды маем зьвярнуцца, каб нам прыслалі другога вучыцеля? *Д. Г.*

*(в. Сычавічы, Маладэчанскі пав.).*

У месяцы лістападзе мінулага году ў Сычавічах, Радашкаўскае воласьці памёрла ад радоў (ад дзіцяці) ў сярэднім веку, зусім здаровая жанчына, жонка селяніна Піліпа Забаронка, пакінуўшы па сабе ў беднай хатцы шасьцёра дзяцей сіротамі.

Гэтая бесчасовая сьмерць сталася з прычыны ўласнай нядбайнасьці, або праўдзівей, праз недахоп культурнае сьвядомасьці сялянскага жыхарства. Бо каб паслалі ў Радашкавічы, куды ў санках усяго $1/2$ гадзіны дарогі, па акушэрку, то пэўна адратавалі-б жыцьцё. Але калі да парадухі была выклікана вясковая „бабка", цёмная і нямаючая неякіх ведаў у гінэколёгіі, то яна і выправіла без пары на той сьвет няшчасную жанчыну. Праўда, што муж нябошчыцы П. Забаронак, які калісь служыў у Петраградзе,—безьзямельны і цяпер жывець вельмі бедна; мажа ён і пашкадаваў, ці ня меў грошай, каб заплаціць акушэрцы, але ясная рэч, што каб мог прадбачыць гэткае няшчасьце, гэта знача, каб ведаў, прынамсі, што ў такім выпадку патрэбна чалавека, скончыўшага адпаведную навуку, якога ня можа заступіць простая вясковая баба, то няма сумліву, што даў-бы сабе нейкую раду.

Няхай-жа гэты нешчасьлівы выпадак паслужа навукай для іншых, як трэба рупіцца ў пару аб падачы мэдыцынскай помачы, калі яна патрэбна і не шкадаваць на гэта выдаткаў, бо за некалькі злотых, якія аддасі на доктара ці акушэрку,—ня купіш чалавека. *Д. Г.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## „Думка Працы" і Радыё.

Ад нейкага часу Віленская Надаўчая Радыястанцыя падае лекцыі ў беларускай мове, у каторых лектары-беларусы маюць магчымасьць заявіць усяму сьвету аб сваім існаваньні, расказаць дзесяткам тысячаў людзей аб сваёй культуры, сваёй гісторыі, сваім сучасным жыцьці і сваіх надзеях на будучыну. Здаецца, кожны беларус павінен быў-бы цешыцца з гэткай популярызацыі беларускай мовы і беларускай думкі. Дык не: малайцы з „Думкі Працы" нездаволены з гэтага. Чаму? Рэч ясная: за справу арганізацыі гэных беларускіх лекцыяў узяліся людзі, нічога супольнога нямаючыя з камуністымі. Адсюль і увесь гвалт.

Паночкі, майце хоць трошкі, сумленьня! За вас гаворыць ужо вашыя начальнікі з Менскай радыястанцыі. Вы лепш за іх не патрапіце выхваляць камуністычны рай. Дык дазвольце з Вільні гаварыць тым беларусам, якія апроч камуністычнай брахні, маюць шмат чаго іншага сказаць беларускаму грамадзянству.

## Беларускі спэктакль.

8 студня 1928 г. у салі „Ognisko Kolejowe" у Новаельні адбыўся спэктакль-вечарына, ладжаны беларускаю моладзьдзю з Новаельні іВаракомшчыны. Пастаўлена была камэдыя „Мікітаў лапаць" М. Кудзелькі. Ролю Яўменя адыграў Алесь Кардаш, Грыпіну—Ольга Бяляева, Зоську—Анька Кардаш, Дар'ю—Насьця Талкун, Саўку—Янка Мароз, Мікіту—Саўка Лябор. Суфлераваў Міхась Лазавік, кіраваў Янка Шэйбак.

Пасьля спектаклю выкананы артыстамі беларускія нацыянальныя песьні і танцы на сцэне. Ня ўходзячы бліжэй у ацэнку ігры, трэба сказаць, што глядзельнікі былі проста захоплены. Нажаль, нашая моладзь ня мае ніякай культурна-прасьветнай арганізацыі.

## Новая газэта.

Апрача „Народу", друкаванага кірыліцай, мае хутка яшчэ выходзіць другая газэта Беларускае Сялянскае Партыі, друкаваная лацінікай. Першы нумар газэты мае выйсьці за тыдзень.

## Канфіската.

Па загаду Камісара Ўраду на м. Вільню сканфіскованы нумары 4, 6 і 7 „Сялянскае Нівы".

## Скандал з інтэрнатам для Беларусаў.

Дырэкцыя Беларускае Гімназіі ня пушчае дагэтуль сваіх вучаніц у інтэрнат, які па просьбе бацькаўскага камітэту і Дырэкцыі Гімназіі адчынілі для беларускіх вучаніц амэрыканцы.

Ходзяць чуткі, што такі загад вышаў з Масквы, мо' ад самога Сталіна. Вучаніцы баяцца ісьці ў інтэрнат, бо Дырэкцыя пагражае звальненьнем са школы.

# Апошнія навіны.

**С. С. С. Р. Лёс опозыцыянэраў.** Апошняя група опозыцыянэраў выслана з Масквы 16.I.28. Радэк і Ракоўскі высланы ў Мурман над Белым морам. Троцкі ў Верхняе, якое ляжыць на ўсход ад Ташкенту на руска-кітайскай граніцы. Сьмілга ў Нарымскую вобласьць на Сібіры. Павадыры опозыцыі сасланы на 3 гады, як элемэнт пагражаючы істнуючаму грамадзкаму ладу. Толькі Зіноўеў і Каменеў, якія паддаліся Сталіну, атрымалі віжэйшыя адміністрацыйныя становішчы ў глыбокай Расеі. Пры ад'езьдзе Троцкага сабраўся натоўп народу, які ўстроіў дэмонстрацыю ў чэсьць Троцкага. Троцкі зьявіўся на станцыю ў асысьце міліцыі. Ён ня выступаў з прамовай.

Між Сталіным і Чычэрыным паўстаў паважны конфлікт па поваду розьніцы паглядаў на справу опозыцыі. Чычэрын, каторы лічыць прынятыя проціў опозыцыі меры занадта вострымі, не зьяўляецца нават ад некальыіх дзён укамісарыят замежных справаў. Заступае яго Літвінаў.

**Латвія.** Новы латвійскі ўрад выдаў сваю праграмную дэкларацыю. У вонкавай палітыцы ўрад будзе імкнуцца да добрых прыяцельскіх адносін з іншымі дзяржавамі, а асабліва з тымі, якія, падобна Латвіі, імкнуцца да захаваньня свае незалежнасьці.

Урад у Сойме атрымаў даверые 53 галасамі проціў 47.

**Кітай.** У раёне жалезнай дарогі Шанхай-Ханькоу пачалася камуністычная рэвалюцыя, але на гэты раз у вёсках. Урад выслаў туды шмат войска.

# Аб усім патроху.

## Кірмаш „Казюка“ 8 сакавіка.

У сувязі з выбарамі да Сойму, назначанымі на дзень 4 сакавіка, якія сходзіцца з вялікім кірмашом у Вільні, гэтак званым кірмашом Казюка, пан Віленскі ваявода, аддаў загад аб пераносе гэнага кірмашу на дзень 8 сакавіка. Гэткім чынам „Казюковы“ кірмаш ня будзе цяпер стаяць на перашкодзе выпаўненьню грамадзкага абавязку ўсім тым, хто захоча на яго прыехаць.

Адначасна пан ваявода зьвярнуўся да каталіцкага і праваслаўнага духавенства з просьбаю, каб магчыма найшырэй абвясьціла аб гэтым сялянству.

Тых, хто ня ведаючы аб гэным загадзе, прыедзе на кірмаш 4-га сакавіка, паліцыя ня будзе пушчаць у Вільню, паведамляючы, аб пераносе кірмашу на 8 сакавіка.

## ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Прашу зьмясьціць наступнае: У адказ на правакацыйную карэспондэнцыю, зьмешчаную 7.I.28 г. у № 3 газэты „Сялянская Ніва“ пра мяне, мушу праз Вашу часопісь запранаваць рэдакцыі „Сялянскай Нівы“ і яе казённаму аўтару в Вільні, напісаўшаму вышэйпададзеную карэспондэнцыю пра мяне, як-бы з вёскі Перхавіч, каб яны „мучанікі за народ“ мелі грамадзкую адвагу падаць у прэсе ўсю юдашавую работу гр. Цяўлоўскага з Баранавіч, дзеля таго, каб асьцерагчы грамадзянства і „паўінтэлігэнтаў“ ад небясьпечных зносін з ім, а так-жа падаць факты, чым я памагаю гр. Цяўлоўскаму ў яго бруднай юдашавай працы?

Калі гэта ня будзе зроблена, то лічу подлымі трусамі-правакатарамі тых людзей, каторыя ня маюць грамадзкай адвагі раскрываць брудна-юдашавыя работы паасобных сяброў беларускага грамадзянства, падпісваючы прозьвішча і адрэс.

Працаваць ня кожны здолее на карысьць грамадзянства і куды лягчэй, схаваўшыся пад псэўдонімам, з-за кута, у мэтах правакацыйных ці асабістых чарніць сяброў беларускага адраджэньня.

Копія гэтага пісьма адаслана ў рэдакцыю газэты „Сялянская Ніва“.

З пашанаю Ян Дэшкоўскі,
пошта Моўчадзь, в. Перхавічы,
11.I.1928 г. Баранавіцкага пав.

## Абвестка

**Акружны Зямельны Урад („Okręgowy Urząd Ziemski“) ў Вільні** падае да ведама, што **Міністар Зямельнае Перабудовы** ў выніку прапазыцыяў Акружнога Зямельнага Ўраду, застасаваў пастановы 4-ае часьці 11 параграфу новавыданага закону 31 ліпня 1923 г. аб камасацыі земляў і **звольніў ад аплаты за тэхнічныя работы пры камасацыі земляў** сялян **Даўгінаўскае, Ілейскае і Хаценчыцкае** валасьцяў **Вялейскага** павету ў тым выпадку, калі просьбы аб камасацыі будуць пададзены да 31 сьнежня 1928 г., а таксама сялян **Ракаўскае** волосьці **Маладачанскага** павету, калі просьбы аб камасацыі іх земляў будуць пададзены да земскіх урадаў не пазьней, як 31 сьнежня 1929 г.

(—) *Лончыньскі*
Прэз. Арк. Зям. Ураду ў Вільні.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Уладзімер Робіза.** Вёска Кляны. Трахому трэба лячыць у доктара. Хвароба паддаецца лячэньню, але лячыць трэба доўга. Аб трахоме напішам асобны артыкул.

Нумароў „Б. Дня“, якіх Вам не хапае — выслаць ня можам, бо маем вельмі мала. Газэту будзем высылаць далей, пастарайцеся прыслаць падпіску, сабраўшыся хаўрусом, калі аднаму Вам цяжка.

**Скірмунт Канстанцыя,** пошт. Пінск. 5 зл. пранумэраты ад 15.VI. да 15.XI. 1927 г. атрымана.



Адказны Рэдактар і выдавец **Ф. Умястоўскі.** **Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie,** вул. Сьв. Анны 3.